## ЗЬМЕСТ:

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

№ 17-18

ВЕРАСЕНЬ 1931

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 59, ТЭЛЕФОН 17—09

СОЛІКАМСК. У 1929 годзе калійны руднік імя „10-годзьдзя КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЕВАЛЮЦЫІ“ даў на калгасныя палі першы савецкі калі. У раёне СОЛІКАМСКА растуць новыя калійныя руднікі, якія ўжо ў наступным годзе дадуць 1.000.000 тон калія.







Астрахань — Вылоўка рыбы

# Крушэньне рэнэгатаў

П'еса ў 2-х дзеях
УЛ. СТЭЛЬМАХА

(Канец).

Пераключэньне

(Паседжаньне партыйнага комітэту).

**Гольцман.** Таварышы, новы закон Брунінга прадугледжвае скарачэньне непатрэбных выдаткаў на беспрацоўе, што дае толькі ў гэтай галіне тысячы марак экономіі нашай дзяржаве.

**Галасы.** Тысячы...

**Гольцман.** На якім мы зможам, як і раней, адбудоўваць культурнае сьветлае жыцьцё нямецкай рэспублікі.

Усе, каму дарагі лёс Нямецкае дзяржавы і яе народу, павінны падтрымаць гэты закон.

Дык няхай жыве новы закон Брунінга! Няхай жыве наша вечная дружба ў супольнай барацьбе супроць чырвонага імпэрыялізму Нямеччыны і яго бацькаўшчыны—СССР.

Луін. Мы прызваны адратаваць Нямецкую рэспубліку і будзьце пэўны, таварышы, мы гэты абавязак выканаем з гонарам для нашай адзінай мэты.

Галасы. Правільна...Няхай жыве сьветлае жыцьцё нямецкага народу!

Шаф (*разьюшаны, як зьвер, крычыць*). К чорту! Даволі... Я не магу больш экономіць на жыцьці сваіх дзяцей, на жыцьці сваіх таварышоў. Не ма-гу.

Курц. Мой дарагі таварыш Шаф, навошта хвалявацца так? Вам цяжка жыць? Вы беспрацоўны? Ну і до ра. Усё гэта можна вырашыць без хваляваньня. Партыйны комітэт, улічваючы ваша дрэннае становішча, дае вам службу ў профкомітэце, якая цалкам забясьпечыць вас, дарагі таварыш Шаф.

Шаф. Ха-ха ха... Вы мне дасьце службу. Вы мяне хочаце купіць за цёплае месца?

Курц. Што з вамі, мой мілы Шаф?

Шаф. Вы мяне вельмі танна цэніце, мой мілы Курц. Я хачу цёплае месца ня толькі для сябе, але і для тысячы іншых такіх-жа беспрацоўных, як і я. (*Кідае білет. Выходзіць*).

ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Малюнак трэці.

Памяшканьне партыйнай і комсамольскай ячэйкі машынабудаўнічага заводу „Рэмбранд". Направа шыльда „Ячэйка КПГ(б)", налева „Ячэйка ЛКСМГ". Пасяджэньне бюро парт'ячэйкі.

Макс (*да рабочага*) Вы прыняты ў комуністычную партыю Германіі, т. Райн.

Хто шаснаццаты?

Паўль. Франц Шартэ.

Макс. А-а-а... таварыш Шартэ!..

Франц. Я.

Макс. (*чытае анкету*) Франц Карлавіч Шартэ. Так?

Франц. Так.

Макс. Колькі вам год?

Франц. Пяцьдзесят адзін.

Макс. Вы былі соцыял-дэмократам?

Франц. Дваццаць адзін год.

Макс. Мы абгаварылі вашу заяву, таварыш Шартэ, але нам хацелася-б пачуць яшчэ ад вас саміх, што вас прымусіла пакінуць вашу партыю і падаць заяву ў комуністычную партыю?

Франц. Гэта прышло не адразу... Я доўга думаў аб сваім жыцьці, я доўга глядзеў на апошнія падзеі—Кельні—і пераканаўся, што дваццаць адзін год майго жыцьця ў партыі соцыялдэмократаў—штрэйкбрэхэрства і здрадніцтва сваёй клясе. Я ўбачыў, што гутаркі нашых правадыроў аб мірным соцыялізьме, які сам прыдзе без усялякай бойкі з буржуазіяй—пайшла дымам. Я ўбачыў, што яны гаварылі іх дзеля таго, каб засьляпіць толькі нашы вочы і далей ехаць на нашай шыі.

Мне вельмі цяжка зараз успамінаць аб той ганебнай пляме, якую я насіў дваццаць адзін год на сваім сэрцы. Але я... абяцаю, таварышы, не на словах, а на справе змыць яе... Змыць у сапраўднай барацьбе з ворагамі рабочай клясы пад сьцягам комуністычнай партыі—адзінай партыі пролетарыяту!..

Макс. Таварыш Шартэ, партыйная ячэйка КП(б)Г лічыць вас прынятым у рады комуністычнай партыі Германіі.

Франц. Прынятым?...

Макс. Так, прынятым. Сёньня ўсе, здаецца?

Галасы. Усе!

Макс. Тады пераходзім да чарговага пытаньня аб новым законе Брунінга. Слова мае тав. Паўль.

Паўль. Таварышы, экономічны крызіс з кожным днём усё мацней наступае на горла буржуазіі. Сусьветнае полымя рэволюцыі ўсё мацней разгараецца на вуліцах Германіі... І недалёка той час, калі гэта полымя праглыне капіталістычны лад, сьмерць буржуазіі не за гарамі і капіталізм чуе гэтую сьмерць. Ён імкнецца адтэрмінаваць яе новым законам Брунінга.

Што азначае гэты закон? Гэты закон азначае мільёны новых падаткаў на працоўных Германіі. Скарачэньне дапамогі па беспрацоўі ўсёй моладзі да 21 году, усім сэзонным рабочым, усім замужнім работніцам. Гэты закон, таварышы, адбірае апошнюю скарынку хлеба ад беспрацоўных Германіі. Затое буржуазія атрымлівае ад гэтага закону мільёны марак на сваё пуза. Самы актыўны ўдзел у гэтым рабаваньні рабочых прымаюць соцыялдэмократы. Мы павінны не на жыцьцё, а на сьмерць змагацца супроць гэтага галоднага закону. Мы павінны не на жыцьцё, а на сьмерць змагацца супроць гэтага галоднага закону. Мы павінны паказаць усім працоўным Германіі адзін выхад з жабрацтва, крызісу і голаду—СССР.

(Пераключэньне пасяджэньня бюро ячэйкі ЛКСМГ)

Грэтхэн. Больш пытаньняў няма таварышу Ротэру?

Галасы. Няма.

Комсамолец. А ўсё-ж я прапаную на гэтым устрымацца.

Карл. Па якой прычыне?

Комсамолец. Па такой, што прынялі сёньня ўжо дзесяць кімаўцаў і хопіць.

Карл. Гэта ня прычына.

Комсамолец. Прычына, прычына... Не забывай, што таварыш Ротэр стары сімавец. А можа ён спэцыяльна прысланы ў нашу організацыю па даручэньні СІМ'у шпіёніць. Былі-ж такія цацачкі. Я з вамі. Я за вас, а потым заварaць такі квас, што ўсёй ячэйкай не расхлябаеш.

Карл. Так. Былі і яшчэ будуць пакуль будзе клясавая барацьба, гэтага-ж баяцца ня трэба. Таварыш Ротэр па-мойму не з такіх.

Комсамолец. Не з такіх?... А чаму ён у СІМ'е быў чатыры гады?

Карл. Таму быў, што мы дрэнна працавалі. Не забывай, што таварыш Ротэр сын рабочага, сам рабочы з сямігадовым стажам. І калі наш рабочы хлопец убачыў сапраўдных ворагаў, прышоў да нас, каб разам з намі змагацца супроць іх, мы павінны яго падтрымаць.

Галасы. Правільна!

Карл. Я галасую, таварышы. Хто за тое, каб таварыша Ротэра прыняць у члены Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Германіі?

Галасы. Усе! (*галасуюць*).

Комсамолец. Тады я сваю прапанову бяру назад.

Грэтхэн. Таварыш Ротэр, вы прыняты ў члены ЛКСМГ.

Ротэр. Прыняты?

Карл. Ітак, таварышы, з прыёмам пакончана. Прынята сёньня 20 чалавек, але гэта ня ўсё яшчэ. Дзеля таго, каб нашы рады мацнелі, трэба ня толькі колькасна, але і якасна ўмацоўваць іх. Заўтра-ж табе, таварыш Фрыдрых, прапануецца ўключыць гэтых таварышоў у актыўную работу па падрыхтоўцы да дэмонстрацыі.

Фрыдрых. Добра!

Грэтхэн. Пераходзім да чарговага пытаньня аб дэмонстрацыі. Слова мае тав. Карл.

Карл. Таварышы, пасьлязаўтра наша партыя організоўвае дэмонстрацыю супроць галоднага закону Брунінга. Мы, як лепшыя памочнікі яе, павінны быць у першых шарэнгах гэтай дэмонстрацыі. Аб гэтым трэба будзе пагаварыць вам па цэхах з усёй моладзьдзю.

Комсамолец. Гэта можна.

Карл. І пасьлязаўтра-ж разам з імі быць на плошчы Вільгельма. Толькі глядзеце, ня будзьце цяцерамі.

Комсамолец. Будзь пэўны і ўсё будзе зроблена на зэкс.

Карл. А таксама трэба распаўсюдзіць вось гэты нелегальны нумар „Ротэ Фанэ“.

Галасы. Ёсьць! (*Уваходзіць Генрых*).

Грэтхэн. А-а-а...Генрых, ты нам акурат будзеш патрэбны.

Генрых. Заўжды гатоў!

Грэтхэн. Вось табе заданьне.

Генрых. Ну?

Грэтхэн Бачыш—гэта „Ротэ Фанэ“.

Генрых. Ой, Карл, гэта-ж сёньнешні нумар, дзе ты яго ўзяў? „Ротэ Фанэ“ забаронена-ж.

Грэтхэн. Ш-ш-ш... „Ротэ Фанэ“ забаронена. Гэта нелегальны нумар.

Генрых. Ах, нелегальны!

Карл. Але, які заклікае рабочых паўстаць супроць галоднага закону Брунінга.

Генрых. О, гэта хвацка.

Карл. Табе трэба праз нашых вучняў распаўсюдзіць гэты нумар бацьком.

Генрых. Добра.

Карл. Толькі ведай, каму даваць.

Генрых. Ведаю. Да якога часу гэта зрабіць?

Грэтхэн. Ну, хаця-б да заўтрашняга вечара.

Генрых. Да заўтрашняга?

Карл. Ага, а што, не пасьпееш?

Генрых. Гм... Ды гэта мне плюнуць сёньня зрабіць.

Грэтхэн. Значыць, па руках?

Генрых. Па руках! (*Бярэ ў ранец газэты. Раптам незнаёмы стук. Уваходзіць поліцыя*).

Першы поліцыянт. Гут-майн!

Другі поліцыянт. Вы нас прабачайце, гаспада, але мы павінны вас патурбаваць хвілінку.

Грэтхэн. Нам не прывыкаць да вашага турбаваньня, гаспадзін поліцыянт.

Другі поліцыянт. Тады яшчэ раз прабачайце.

Комсамолец. Нічога.

Другі поліцыянт. Да нас даймлі чуткі, што вы распаўсюджваеце нейкую літаратуру, накіраваную супроць закону нашай рэспублікі. Мы, бязумоўна, ня верым гэтым плёткам, але дазвольце нам пераканацца.

Комсамолец. Справа ваша.

Першы поліцыянт. Скажэце, калі ласка, вам не прысылалі забароненага нумару „Ротэ Фанэ“ № 200?

Першы комсамолец. Калі ласка, ня прыслалі.

Першы поліцыянт. Ах, не—ну добра. (*Працягваюць вобыск. Генрых у гэты час хоча змыцца. Яго затрымлівае першы поліцыянт*).

Першы поліцыянт. Пачакай, пачакай, хлопчык, не ўцякай!

Генрых. Я не ўцякаю, а проста іду ў школу.

Першы поліцыянт (*ціха да Генрыха*). Скажы, хлопчык, ты ня бачыў тут вось такой маленькай газэткі?

Генрых. Бачыў.

Поліцыянт. Дзе?..

Генрых. Вунь на стале... (*Поліцыянт падбягае да стала, хапае газэты, глядзіць іх, але нічога не знайшоў, варочаецца назад*).

Поліцыянт. Не, не такія. Вось такую. „Ротэ Фанэ“ № 200.

Генрых. Вось такую?

Поліцыянт. Але, але.

Генрых. „Ротэ Фанэ“?

Поліцыянт. Ага-ага!

Генрых. № 200?

Поліцыянт. Во-во!

Генрых. Не, ня бачыў.

Поліцыянт. Ды ты ня пужайся, я нікому не скажу.

Генрых. Ды я і не баюся.

Поліцыянт. О, які ў цябе прыгожы ранец!

Генрых. Як каму.

Поліцыянт. Хто гэта табе купіў?

Генрых. Ну, вядома хто, тата.

Поліцыянт. А хочаш, я табе яшчэ прыгажэйшы куплю? Прыгажэйшы ад усіх у вашай школе. З залатымі абойкамі!

Генрых. Прыгажэйшы?

Поліцыянт. Але.

Генрых. Ня хочу.

Поліцыянт. О, з табой, хлопча, бяз салодкага размаўляць ня будзеш. На! (*Дае цукерку*).

Генрых. Вы лепей дайце работу і хлеба нашым бацьком, каб мы не паміралі з голаду!

Поліцыянт. Вось паршывец малы, і ён ужо нешта разумее! (*Да Генрыха*)—А ну, пакажы мне твой ранец!

Генрых. Ня вы мне яго купялі, ня вам я буду яго паказваць.

Паліцыянт. Пакажы, ну!..

Генрых. Вы надта ня шчыпайцеся, бо я ўмею кусацца.

Другі паліцыянт. Стой! (*Да першага*). Хадзі сюды! Тут нешта ёсьць.

Першы паліцыянт—(*цягне Генрыха*) Хадзем!

Генрых (*крычыць*) Пусьціце!

Другі паліцыянт. Ды кінь ты там з гэтым малым важдацца! Хутчэй кажу!

Першы паліцыянт. Ен падазроны, гаспадзін Рудольф... (*Цягне за сабою Генрыха*).

Другі паліцыянт. Бачыў? Вось яны! (*Паказвае на газэту*). Хто з вас тут сакратар? Грэтхэн?

Галасы. Усё!

Грэтхэн. Я.

Другі паліцыянт (*да першага*). Узяць яе. (*Генрых у гэты час зьмываецца*).

Другі паліцыянт. Вы арыштаваны за скрыццё і прапаганду незаконнай літаратуры.

Грэтхэн. Гэта называецца ваша дэмократычная свабода слова? Ну, што-ж?.. Працуйце, працуйце, гаспада паліцыянты... Але памятуйце, што ўсіх не арыштуеце.

(ЗАСЛОНА).

Малюнак чацьверты.

(Плошча Вільгельма. Рабочыя зьбіраюцца на дэмонстрацыю).

Голас газэтчыка: „Газэты каму? Газэты!.. Вось яны, вось яны ўночы роблены!.. Днём прадаем, ледзь не дармова аддаем!.. „Форвэртс". „Дэйч-Бэргвэркцэйтунг"!

Сёньня ў нумары: Паўстаньне сялян у СССР. Крывавая расправа ДПУ з сялянскім бунтам. 5000 раненых і 800 забітых! Сталін уводзіць капіталізм! Рыкаў супроць!.. Вось яны, вось яны. Каму, налятай!—Бяры не зявай!..

Паліцэйскі (*са здавальненьнем слухае, падкручвае вус і ўхмыляецца*). Дай газэтку!

Газэтчык. Калі ласка. (*Пабег з крыкам*).

Першы рабочы. Чуеш, што пішуць пра СССР?

Другі рабочы. Ды што ім прывыкаць брахаць, ці што! За тое-ж грошы атрымліваюць.

Голас радыё Алло, алло, алло! Усім, усім, усім! Лепшы ў сьвеце шакаляд, мармаляд містэра Куліча на рагу Бярлінскай вуліцы. Сьпяшайцеся, сьпяшайцеся ўсе!..

Першы рабочы. Сам жары!

Другі рабочы. Дайце сьпярша грошы на хлеб, тады будзеш думаць пра шакаляд.

Генрых. Газэты, газэты, газэты!.. Вось каму, вось каму! ...Сёньня ў нумары: Крах банка містэра Эліна. Новы закон Брунінга—новая сьмерць нямецкаму народу!

Паліцэйскі. Што? Што ты сказаў?..

Генрых. (*Быццам ня прыкмячаючы паліцэйскага*). Новы закон Брунінга адратуе нямецкі народ ад голаду і крызісу!

Паліцэйскі. (*Задаволена падкручвае вус, усьміхаецца*). Вось то-та!

Генрых. Новы закон Брунінга—новая галодная сьмерць для нямецкага народу!

Паліцэйскі. Ах, ты, паршывец! (*Бяжыць за Генрыхам. Апошні высоўвае язык, уцякае*).

Генрых. (*Уцякаючы крычыць*). Новы закон Брунінга—новая сьмерць...

Паўль. Я думаю, пачнем.

Карл. Так, можна пачаць. Тысяч дзесяць ужо сабралася.

Генрых. (*Цішком зьяўляецца з другога боку і дае рабочым газэты*). „Ротэ Фанэ" № 200, „Ротэ Фанэ" № 200".

Паўль. Таварышы! Учора на Бярлінскай вуліцы цэлая сям'я рабочага пакончыла самагубствам...Заўчора на Прускай плошчы 7 рабочых памёрлі з голаду...

Тыдзень таму назад у нашым горадзе было 99 тысяч беспрацоўных. Зараз іх ужо 126 тысяч. Гэты лік расьце не па днёх, а па хвілінах. Учора яны былі ахвярамі вуліц Кельня. Заўтра мы. Вось той лёс, які ня сёньня—дык заўтра чакае кожнага працоўнага Германіі. Што робіць урад Германскае дзяржавы дзеля таго, каб адратаваць сваіх беспрацоўных ад голаду і сьмерці? Ён абвяшчае новы закон Брунінга.

Што азначае гэты закон? Гэты закон азначае мільёны новых падаткаў на працоўных Германіі, скарачэньне дапамогі па беспрацоўі ўсім сэзонным рабочым, усім замужнім працаўніцам. Гэты закон, таварышы, адбірае апошнюю скарынку хлеба з зубоў беспрацоўных Германіі.

Затое-ж капіталістам ён дае мільёны марак эканоміі на іх пузы. Самы гарачы ўдзел у гэтым рабаваньні рабочых прымаюць здраднікі рабочай клясы соцыял-дэмократы. Буржуазія хоча сваю сьм рць перакінуць на плечы рабочых. Мы, таварышы, павінны шукаць выхад з гэтага становішча ня ў сьмерці рабочых, а ў сьмерці буржуазіі. Бо яна зьяўляецца адзіным віноўнікам усяго гэтага. Далоў галодны закон Брунінга! Далоў лёкаяў буржуазіі—соцыял-дэмократаў!

Няхай жыве савецкая Германія, якая дасьць сапраўдны выхад працоўным з жабрацтвам, крызісу і голаду!..

Галасы. Правільна!.. Далоў трэці галодны закон Брунінга! Далоў паліцыю! Няхай жыве савецкая Германія!

Гольцман. Таварышы, я першы раз на трыбуне. Я просты рабочы і таму так аратарскі гаварыць ня ўмею.

Галасы. Брашы, брашы, ведаем мы такіх рабочых.

Гольцман. Таварышы, я член соцыял-дэмократычнай партыі Германіі, той партыі, якая змагаецца і будзе заўсёды змагацца за справу працоўных Германіі.

Комсамолец. Скажэце, ваша партыя рабочая?

Гольцман. Бязумоўна, рабочая!

Комсамолец. А чаму ў вашай партыі Аўгуст Вільгельм—сын зьбеглага імпэратара Вільгельма?

Гольцман (*абкашліваецца*). Ах-фу-ах-фу...

Комсамолец. Ён што, таксама рабочы, ці, мабыць, сын рабочага? (*У грамадзе сьмех*).

Галасы. Вось здорава абрэзаў, маладзец, Янук!

Комсамолец А чаму ў вашай партыі капіталісты?..

Гольцман. Я папрашу не перашкаджаць мне гаварыць!

Галасы. Ага, хвастом накрыўся! Цішэй, таварышы, дайце крыху пабрахаць яму! Не перашкаджайце гаварыць! Няхай гаворыць!

Гольцман. Таварышы рабочыя! Дзеля таго, каб выратаваць Германскую дзяржаву ад крызісу ёсьць два шляхі, або кроў, забойства, руйнаваньне, а затым, жабрацкая савецкая рэспубліка... хе хе-хе...

Голас. Так, гэта адзіны шлях выхаду з жабрацтва, голаду і сьмерці!

Гольцман! Таварышы, дарагія таварышы, на гэты шлях вас клічуць комуністы. А чаму яны клічуць? Яны клічуць таму, што хочуць затапіць нямецкі народ у крыві. Яны хочуць здрадзіць германскай рэспубліцы, яны хочуць зьнішчыць нямецкую культуру.

Голас рабочага. А чаму яны ня зьнішчылі Расію, а наадварот, будуюць там сьветлае жыцьцё соцыялізму?

Гольцман. Гэта мана, таварышы, мана, вам засьляпілі вочы комуністы, але мы ведаем, што за сьветлае жыцьцё ў Савецкае Расіі. Мы ведаем які там „рай".

Голас. Заткніце яму глотку.

Гольцман. Таварышы, дарагія таварышы. у СССР рабочыя задыхаюцца ад чырвонага імпэрыялізму. У СССР пануе прымусовая праца. У СССР Сталін уводзіць зноў капіталізм.

Рабочы. Мана, таварышы, мана! Я сам толькі што з СССР і павінен вам сказаць, што гэты гаспадзін соц.-дэмократ гаворыць стопроцантнае глупства. Я сам сваімі ўласнымі вачыма бачыў, што рабочыя СССР сапраўды будуюць сьветлае жыцьцё соцыялізму!.. Без крызісу, без усялякага беспрацоўя!..

Гольцман. Я не магу, таварышы, гаварыць, калі мяне перабіваюць на кожным кроку

Голас. Не брашы і ня будзем перабіваць!

Гольцман. Таварышы, мы ня пойдзем па гэтым крывавым шляху, на які клічуць вас комуністы. Гэта ня наш шлях, наш шлях, на які мы вас заклікаем!..

Голас. Гэта шлях голаду і сьмерці!

Гольцман. Няпраўда! мы заклікаем вас выйсьці з крызісу бяз крыві, без руйнаваньня... Дзеля гэтага наш урад вынусьціў трэці закон Брунінга. Той, каму дорага жыцьцё і кроў нямецкага народу, павінен падтрымаць гэты закон. Ура! Няхай жыве германская дэмократычная рэспубліка!

Галасы. Ах, падтрымаць? Даволі, да д'ябла! Гані яго!

Карл. Таварышы, чаму ў СССР няма беспрацоўя, голаду і крызісу? Таму, што ў СССР няма ўлады капіталістаў. Хто высыпае вагоны тон мукі, кофэ ў рэчку, каб не аддаць яго рабочым?—Капіталісты. Хто віноўнік крызісу?—Капіталізм. Што трэба зрабіць, каб зьнішчыць крызіс, жабрацтва і голад?

Галасы. Зьнішчыць ка-пі-та-лізм!

Карл. Правільна! Так, гэта цяжкі шлях, шлях полымя і крыві, бо капіталізм сам не палезе ў магілу бяз бойкі. Але гэта адзіны шлях, які нам паказаў пролетарыят СССР, па якім мы павінны ісьці, каб адратаваць працоўных Германіі ад голаду, крызісу і сьмерці. Соц.-дэмократы заклікаюць нас тут падтрымліваць закон Брунінга. Гэта значыць паміраць, як і раней, ад голаду на карысьць тоўстага пуза буржуазіі. Але мы скажам ім, досыць паміраць нам! Прышла пара памерці і вам! Далоў трэці галодны закон Брунінга! Далоў уладу здраднікаў соцыял-фашыстаў і паліцэйскіх! Няхай жыве савецкая Германія! Уперад, таварышы, уперад! Усе на дэмонстрацыю супроць голаду, жабрацтва і сьмерці!.. (*Разьюшаны натоўп з крыкамі*): „Няхай жыве Савецкая Германія!" „Далоў трэці галодны закон Брунінга!". „Хлеба і работы!"—рушыў па вуліцы. Раптам сьвісткі паліцэйскіх.

**Працяг на 19 стар.**





МЕНСК. ПРАЦОУНЫЯ МАСЫ ГОРАЧА ВІТАЮЦЬ СВАІХ ЧЫРВОНЫХ ГЕРОЯЎ (ПРЫХОД ЧЫРВОНАЙ АРМІІ З ЛЯГЕРАЎ).




# Трактары выручылі

Нарыс С. РАКІТЫ

... Ну і ліпень выдаўся сёлета! Пякельны, нясьцерпны ліпень. Пячэ, як на тропіках сонца. За ўвесь месяц ні дажджынкі!

Ідзеш па траве, па заліўнай сенажаці на луг ля рэчкі Расасенкі. Сухая, жорсткая трава. Нібы ножыкам смурыжыць асака ногі. Пажоўклая, вострая такая. Расы даўно ўжо няма. Вечарамі і раніцамі туманы ня квокчуць на сенажаці, ля рэчкі, у хмызьняках. Рака амаль зусім перасохла.

Жара. Пякельная жара.

Зямля патрэскалася, нібы пасьля зямляздрыгу. Такая цьвёрдая, як граніт. Глеба на палёх ліцьвінаўскіх па прыродзе сваёй ліпкая, глеістая—падзол.

Ужо некалькі дзён, як брыгады аратых пакінулі працаваць. Нельга. За дзень зьбіваюцца ўшчэнт коні. Як селядцы засмальцоўваюцца. Ня лезе ў зямлю „сак". Так сакаўскі плуг завуць колгасьнікі. Пудовымі калмышкамі адламваецца акамянеўшая, глеістая глеба. Аратыя стомлены. Ногі пазьбіты аб калмыжкі сухія. А ўзорана ўсяго чвэрць папару. Крыху больш 15 *га*. Засталося шмат.

Цэлы дзень працуюць брыгады. Узьнімуць галовы, зірнуць—з аўчынку ягнячую лапік узараны.

Ідуць у праўленьне аратыя.

— Ня можна працаваць. Папар застаецца неўзараным.

Гамоняць, спрачаюцца дзядзькі. Лаюцца. Лаянка частае зьявішча. Ня прывыклі ліцьвінаўцы жыць, працаваць бяз лаянкі. Цяжка адвыкнуць адразу.

— З трактарнай станцыі, з Дуброўны патрэбна трактары ўзяць. Яны ўзьнімуць глебу. Возьмуць яны.

— Невідаль якая! Лянгузы мы, не гаспадары.

— Куды-ж гэта? Каб мы на конях нашых...

— У нас-жа яны лішнія.

— Папар ня ўзьнялі без трактароў у час, калі глеба была мяккая, вільготная. Навошта-ж трактары займаць. Яны ў другіх колгасах патрэбны...

— А сродкі? Сродкі навошта раскідваць. Мы самі гэтыя грошы зарабілі-б, на конях...

... Чэша патыліцу дзядзька Міхась — старшыня колгасу. Зґаджаецца.

— А коні?.. Як мы коняй скарыстоўваем...

— От, от.

— У сераду ў Лядох кірмаш, У пятніцу кірмаш. У нядзелю кірмаш... ды ў гадавыя сьвяты... І кожны кірмашны дзень— ў Ляды.

— Каму трэба, а каму і ня трэба.

— Хто па справах, а хто за чаркай.

— Ганяем коні. Ганяям...

— Ды што там казаць! Можна было ў час узараць сваімі сіламі, на конях. Можна!

Гамоняць, спрачаюцца дзядзькі. Чэша патыліцу старшыня.

Згаджаецца... Праўду кажуць колгасьнікі. Прахлопалі. Прамарнавалі час.

— Правільна, таварышы! Памылка. Вінаваты мы. Прашляпілі. Але што рабіць? Давайце раду! Папар узараць трэба.

— Вядома трэба!—крычаць колгасьнікі.

— Давайце рашаць. Зробім, як Васіль кажа. Трактары трэба ўзяць. Заднім розумам усе мы разумны...

— А вы-ж праўленьне! У шапку спалі!

— Усіхная гэта справа, таварышы. Кожнага. Ну, а праўленьне больш за ўсіх вінавата. Больш!..

Разумеў кожны, што паправіць памылку нельга. Адно выйсьце ёсьць. Папар павінен быць узараны.

... І загагаталі, задымілі на палёх ліцьвінаўскіх, на палёх колгасу трактары Дубровенскай машына-трактарнай станцыі.

***

... Станеш на ўзвышшы, там, дзе стаяла калісьці вёска Ліцьвінава. Станеш, зірнеш наўкола. Худымі квактухамі расьселіся па полі гарбылістаму хаткі. Маленькія са стрэхамі саламянымі Прыляпіліся да хатак хлявы, пуні маленькія, пагрэбні. Рэдка ля якога двара сажняў сто ў бок — гумно. Заметы на паліва зімой выняты.

... Хутары. Прышчэпаўская „Данія". Дзікунства.

... Парэзаны палі на кавалкі—хутарскія вучасткі. Парэзаны хутарскія вучасткі на палі-кавалкі па культурах: жыта, ярына, папар. Узьлезьце на званіцу старую, што ў канцы былой вёскі Ліцьвінава. Зірнуць навакол і ўбачыш ня поле шырокае, а шахматную дошку, пакроеную на няроўныя па велічыні, няправільныя па форме чатырохкутнікі, ласкуткі зямлі.

... Хутары. Прышчэпаўская „Данія". Дзікунства!..

Як палі гэтыя папілавала было жыцьцё-быцьцё дзядзькоў ліцьвінаўскіх. Трапялася, што аднавясковец аднавяскоўца за цэлы год не страчаў, ня бачыў ніколі. Іншыя страчаліся на кірмашы, у мястэчку, у Лядох. Пілі тады гарэлку, альбо ванючку-самагонку за доўгую ростань, за стрэчу рэдкую. І ў „бога" і ў „пячонкі" клялі хутары і таго, хто прыгадаў іх.



ОТТО ГРЫБЕЛЬ — ІНВАЛІД ВАЙНЫ

# ЗДРАДЖАНЫЯ, АЛЕ НЕ ПЕРАМОЖНЫЯ

НАРЫС
А. РЫГОРАЎСКАГА

### ПА АБОДВЫ БАКІ ГРАНІЦ

Ліль, Туркуэн, Рубэ, Алуен—вялікі раён паўночнага дэпартаманту Францыі, цэнтр тэкстыльнай вытворчасьці рэспублікі. Гэты раён зьліваецца з тэкстыльным раёнам суседняга з Францыяй бэльгійскага каралеўства—з Вервікам, Бусбэкам, Ліксэлем і з пагранічным з Францыяй тэкстыльным гарадком Мэнікам

І там і тут—па абодвы бакі граніцы тэкстыльныя магнаты Францыі і Бэльгіі эксплёатуюць сваіх белых рабоў—рабочых францускіх і рабочых бэльгійскіх. І там і тут—па абодвы бакі граніцы адны капіталісты набіваюць сабе кішэні зьверх-прыбыткамі, іншыя рабочыя (французы, бэльгійцы, алжырцы, португальцы) галадаюць, церпяць недахопы, трацяць сваё здароўе ва славу капіталу.

Кожную раніцу, кожны вечар на грузавых аўтомобілях і пехатою праяжджаюць і праходзяць праз граніцу працаўнікі: французы на работу на фабрыкі бэльгійскія, бэльгійцы на работу на фабрыкі францускія. Капіталізм не заглядвае ў вашыя пашпарты, не спраўляецца з вашай нацыянальнасьцю, калі вы—працоўныя згодныя на яго рабіць, калі вы згодны (воляй ці няволяй) быць яго рабом...

А на граніцы з прыемнасьцю пазіраюць адзін на аднаго стражнікі дзьвух суседніх дзяржаў. Гаспадары гэтых дзяржаў пакуль-што мірна жывуць адзін з другім, солідарна працуюць „на культуру, на чалавецтва“...

Мірна жывуць і іх каштоўныя сабакі.

### ЯК ГЭТА ПАЧАЛОСЯ

Францускія, а за імі і бэльгійскія тэкстыльныя магнаты ў канцы красавіка гэтага году абвясьцілі аб зьніжэньні зарплаты тэкстыльшчыкам (зарплаты якая і бяз гэтага ўжо вельмі нізкая) на дзесяць процантаў. Яны і іх лёкаі социял-рэформісты тлумачылі гэтае зьніжэньне зарплаты экономічным крызісам і шмат чым іншым.

— Зарплату скарачаць ні на адзін сантым не дазволім,—цьвёрда заявілі рабочыя тэкстылю. Скарачайце вашыя мільённыя прыбыткі!.

Так пачалася барацьба. Звычайныя адвакаты капіталістаў—правадыры социял-рэформізму, выступілі на сцэну. Яны пачалі (праўда, дарэмна), угаварваць рабочых згодзіцца на скарачэньне зарплаты. Ім у гэтай „паважанай“ рабоце дапамагалі і правадыры социял-хрысьціянскіх саюзаў папы і папоўствуючыя. Але рабочыя заставаліся непакорнымі.

Тады ўласьнікі фабрык пусьціліся на хітрыкі. Яны абвясьцілі, што яны згодны на часовае зьніжэньне зарплаты „толькі“ на чатыры процанты, не адмаўляючыся, аднак, ад дав дзеньня гэтага зьніжэньня да дзесяці процантаў. Тады рабочыя тэкстылю пад кіраўніцтвам КПФ і КПБэльгіі і ўнітарнай конфэдэрацыі працы аб'яўляюць усеагульную забастоўку. Гэта адбываецца 18-га мая 1931 году.

Забастоўка ня гледзячы на ўсе спробы социял-рэформістаў сарваць яе адразу-ж прымае масавы, усемясцовы характар. У ёй прымаюць ўдзел да 125 тыс. рабочых і работнікаў тэкстылю. Яна перакідаецца праз граніцу і ахапляе сабой і рабочых бэльгійскіх тэкстыльных фабрык. Яна папраўдзе становіцца інтэрнацыянальнай.

### І ДАРЭМНА ГУЛІ ФАБРЫЧНЫЯ СЫРЭНЫ

Замерла жыцьцё ў вялікім тэкстыльным раёне. Дарэмна ў раньні гулі фабрычныя сырэны, заклікаючых рабочых да працы. Ніхто не адзываўся на іх заклік. Героічная забастоўка тэкстыльшчыкаў Францыі і Бэльгіі працягвалася. Праўда, дзе-ні-дзе з дапамогай штрэйкбрэхэраў, якія добра аплачваліся, фабрыкантам іншы раз і ўдавалася пусьціць на дзень-два сваю фабрыку ў ход.

Але карысьць ад гэтага атрымлівалася для іх нязначная. Рабочыя ня слухаліся штрэйкбрэхэраў і... фабрыка воляй ці ня воляй зноў закрывала свае вароты. Ні да чаго не давяла і антызабастовачная агітацыя хрысьціянскіх спэцыялістаў і социял-рэформістаў. У гэту першую героічную стадыю стачачнай барацьбы ўсе рабочыя тэкстыльшчыкі, нават і тыя, хто яшчэ ня поўнасьцю вызваліўся ад социял-рэформіцкіх ілюзій, ішлі за комуністамі, стаялі на пункце гледжаньня працягу барацьбы.

### БАРЫКАДЫ Ў РУБЭ, БОЙ У МЭНІНЕ

Дзевяць тыдняў ужо працягваецца забастоўка тэкстыльшчыкаў. Дзевяць тыдняў пільнай патрэбы, голаду і пакуты. Дзевяць тыдняў героічнай барацьбы.

Парві зламаць супраціўленьне рабочых волі фабрыкантаў. Экономічны крызіс пане і ў Францыі і ў Бэльгіі А ў такі, небясьпечны для капіталізму час працяглае і героічнае супраціўленьне рабочых, іх пераможны наступ на капіталізм чэраваты небясьпекамі для гэтага самага капіталізму. Бо з іскры можа разгарэцца полымя.. Тым больш, што „іскра“ на поўначы Францыі ўжо палае здалёку заметным агнём.

І вось 23-га ліпеня зноў грузавыя аўтомобілі прывозяць у Мэнін з усіх канцоў Бэльгіі і Францыі сабраных штрэйкбрэхераў.

Фабрыканты пры дапамозе социял-рэформіцкіх правадыроў зноў спрабуюць сарваць героічную забастоўку тэкстыльшчыкаў.

Градам каменьняў сустракаюць рабочыя Мэніна грузавыя аўтомобілі.

— Далоў штрэйкбрэхэраў! Няхай жыве забастоўка!—крычаць яны.

На вуліцаў Мэніна ў гэты дзень 23 ліпеня кіпеў жорсткі бой паміж забастоўшчыкамі і жандарамі. З аголенымі шашкамі кідаліся конныя жандары на натоўп. І сустракалі стойкі адпор з яго боку.

— Нас падманілі вярбоўшчыкі кажучы, што забастоўка скончана, што фабрыкантам проста патрэбны рабочыя, — гаварылі шмат якія з тых, што прыехалі на аўтомобілях.—Цяпер мы бачым, што барацьба працягваецца... мы ня хочам быць здраднікамі агульнай справе.

І яны пад радасныя крыкі натоўпу саскаквалі з аўтомобіляў, пераходзячы ў рады забастоўшчыкаў.

Так прайшоў дзень 23 ліпеня ў Мэніне—тэкстыльным цэнтры бэльгійскага каралеўства. А ў той-жа час у Рубэ—тэкстыльным цэнтры францускай рэспублікі таксама будаваліся барыкады, таксама лілася рабочая кроў.

### АДЗІНЫ ФРОНТ ПРОФБЮРОКРАТАЎ

Справа пачалася сур'ёзна разьвівацца. Ні недахопы, ні голад, ні тысячы прысланых на поўнач Францыі жандараў не запужалі забастоўшчыкаў, не здолелі зламаць іх героічнага супраціўленьня і тады ад былася згода профбюрократаў: правадыроў социял-рэформізму і правадыроў хрысьціянскіх социялістаў (папоўскі „рабочы“ профсаюз) з фабрыкантамі, з прадстаўніком тэкстыльных фабрыкантаў Леем. Хрысьціянскія і рэформіцкія профбюрократы трывожачы саюз папоўшчыны і социял-

# ШЫРЭЙ РАЦЫЯНАЛІЗАТАРСКУЮ РАБОТУ НА ДАРОЖНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ

Сэктар рацыяналізацыі дарожнага будаўніцтва пры Галоўдартрансе організава ўся ў сакавіку г.г. Пры нарадах у чэрвені арганізаваны бюро рацыяналізацыі работ. Аднак, гэтыя бюро не ўкамплектаваны работнікамі. Начальнікі работ мала цікавяцца рацыяналізацыяй дарожнага будаўніцтва.

Нядаўна Галоўдартранс і Белдарбуд камандыравалі работнікаў у Ленаблдартранс для азнаямленьня з пастаноўкай рацыяналізатарскай работы. Для консультацыі запрошан з Ленінграду інжынэр-рацыяналізатар. Праведзена нарада рацыяналізатараў, на якой распрацован рад мер па паляпшэньні рацыяналізатарскай работы.

Рацыяналізатарскія мерапрыемствы значна паляпшаюць якасьць, павялічваюць прадукцыйнасьць працы, павышаюць тэмпы дарожнага будаўніцтва.

Трэба неадкладна ўмацніць рацыяналізатарскія органы работнікамі, ажывіць работу вытворчых нарад на дарожным будаўніцтве, уцягнуць масу дарожных рабочых у справу рацыяналізацыі. Адказнейшая задача прыпадае тут на долю профэсыянальных арганізацый.


















# ВОСЕНЬ

ТОДАР АЛЕСІН

Восень у жоўтай блузе
Ходзіць па ліпеньскім цьвеце,
Ходзіць па скошаным лузе,
Ходзіць па ржышчы, лесе.
Зямля напаіла сокам
Чырвоны жар журавінаў.
Дзесьці
  Далёка, далёка
Клёкат
  Жураўліны...
Цьвіце крыштальная просінь,
Паэту падносіць тосты.
Бачу цябе я, восень,
Чую твой грозны поступ.
Думкі імкнуцца ў вобраз
Мо' ўжо
  І па інэрцыі.
Хочацца вельмі добра
Паказаць
  Лірычнасьць сэрца;
Жыцьцё абнімаць рукамі,
Цісьнуць за сілу,
  За меру.
Восень—
  Звонкімі днямі
Плыві па маіх артэрыях!
Сілу тваю і роскаш
Мабілізую
  Для гэрояў,
Бо і песні паэты—ня роспач,
А мабілізуючая
  Зброя.
І доўга стаяў на гасьцінцы—
Слухаў васеньнія рытмы,
А ў галаве
  З дзяцінства
Ўсплывалі
  Рыфмы.
На зямлю
  Рынем.
Зерня
  Ўкінем
Праз лета
  Жвір
У палетак,—
  Шыр.
Дзень дагараў паволі
І вечар прыходзіў ня першы...
Ізноў
  Па восеньскай волі
Чытаў я лірычныя вершы.
Яшчэ раз,
  Яшчэ раз на зямлю
Грознаю атакаю рынем.
Паложым с вецкае зерня,—
Такое зерня ўкінем!
І скора праз весну, праз лета
Збожжам заглушым жвір
Ды выдзем на гэты палетак
Вітаць адзіную шыр...
Пасьпею забраць я, восень,
Твой
  (для мяне)
  Падарунак...
Ня знаю ўжо, як удалося
Падаць кавалкі думак.
  Ходзіш ты ў жоўтай блузе,
  Ходзіш па ліпеньскім цьвеце..
  Расклею плякаты па лузе,
  Расклею па ржышчы, лесе,
  Што я
    у такія дні
  Заўсёды ў лірычным агні.

9-IX—31 г.



# ЛІТАРАТУРНЫЯ СІЛУЭТЫ

## ПЯТРУСЬ БРОЎКА

ГУМАРЭСКА АЛЁШЫ

Я пісаў сілуэты пераважна аб прозаіках.
Прозаікі менш складаныя людзі.
Пятрусь Броўка—поэт.
Што гэта значыць?
Гэта значыць, што там дзе прозаік
сказаў бы, прыкладна, гэтак:
— „Усе сілы на выкананьне пяцігодкі“.

Пятрусь Броўка гаворыць так:

... „Хай кокс гарыць,
Чыгун плыве,
Сьмялей парыў.
Удар сьмялей.
Усю сілу на завод кінь
За нашу пяцігодку.

Або скажам, надыходзіць вясна.
У сувязі з гэтым прозаік, сказаў-бы так:
— Рыхтуйцеся да бальшавіцкай
вясны!
І каротка тут табе і зразумела.
А поэт піша так:

... „Даўно пара, каб клясаваю стаць...
Ты ўзгадуй для нас палі
На добры умалот.
Ня маеш права сонца ліць
На зёлкі і асот“!...

Напішы вось з гэткага чалавека сілуэт?
Лёгка, думаеце?
Калі гэты чалавек сам пра сябе вось што
піша:

... І можа вы скажаце—
лішні мой гэст
часамі наіўны,
зусім не да месца.
Што зробіш?
Калі тады грудзі—оркестр,
А сэрца нэрвовы,
гарачы хормэйстар.

Ну, вось падступіся да гэткага,
Калі ў гэтага, самі чуеце, „хормэйстар гарачы“.
Адгэтуль відаць наскольні поэты складаныя людзі...
Але ўсё астатняе ў поэтаў так як і ў іншых людзей.
У прыватнасьці і Пятрусь Броўка нарадзіўся ад таты і мамы ў 1905 годзе ў вёсцы Пуцілкавічы.

Пятрусь Броўка ніколі ня быў высокага росту, але тым ня менш Куляшова ён перарос, так прыблізна на бюст Кучара, калі гэты бюст зрабіць у поўную велічыню гэтага нашага крытыка.

Калі вы, чытач, да гэтага ўявіце сабе яшчэ маладога, бялявага, энэргічнага хлапца, які моцна размахвае рукамі,—вы пазбавіце мяне ад неабходнасьці апісваць надворны выгляд поэта.

Соцыяльнае паходжаньне Броўкі?

Я яшчэ некалі пісаў, што ўсе пісьменьнікі, аб якіх я пішу сілуэты, паходзяць або з рабочых, або з сялян-колгасьнікаў.

Я яшчэ тады адзначыў, што інакш пісаць нязручна...

Бо, я вунь пра аднаго напісаў быў, што ён паходзіць з інтэлігенцыі,—дык ён пры спатканьні адвёў мяне ў кут дый кажа:

— Усе кажа, паходзяць з рабочых або з сялян-колгасьнікаў, а я з інтэлігенцыі... Я, кажа, з цябе гэты інтэлігенцкі дух выганю...

— Дык вось і бацькі і браты Пятруся Броўкі колгасьнікі.

І гэтае маё сьцьвярджэньне праўдзівае, ня гледзячы на тое, што яно пішацца ў біографіі.

Гэта гэтага часу Пятрусь Броўка напісаў наступныя зборнікі вершаў:

„Гады як шторм“, „Прамова фактамі“
„Цэхавыя будні“.
„Гады як шторм“...
Я сяжу і перачытваю гэты зборнік...
„Гады, як шторм
Пранесьліся па моры.
Сёньня тут былі,—
А заўтра ўжо там...

І я думаю пройдзе 1931 год... Пройдзе некалі 1935-й год. Пройдзе 1941 год... Пройдзе 1950 год...

—... „Час да комуны мчыць
кур'ерскім—скорым
далёка кінута
адпрацаваная вярста“.

Пройдзе 1965 год...

І я думаю... у 1963 годзе вышаў з друку зборнік Пятруся Броўкі „Цэхавыя будні сусьветнай камуны“.

Праз год, а менавіта ў 1964 годзе Пятрусь Броўка крыху занядужаў і паклікаў сваіх сяброў-поэтаў.

Да хворага абапіраючыся на кіёк першы прышоў Андрэй Александровіч.

Вялікая сівая барада шырака зьвісала на яго заслужаныя грудзі.

— Хвараеш?—прашаптаў ён.

— Хвараю,—са стогнам адказаў Броўка.

— Так... так... Ня тыя гады...—працэдзіў Андрэй і зморана змоўк.

Неўзабаве прышоў Валеры Маракоў.

З-пад рэдкай няўдалай барады неяк убога зьвісаў яго зялёны гальштук,—вочы сьлязіліся ад старасьці.

Ён сеў ля ложка хворага, дастаў хустачку, выцер з вачэй сьлёзы і сказаў:

— Эх, Пётра Юстынавіч! Пётра Юстынавіч! Праляцелі нашыя гады,—як шторм... Каб гэта мы ў маладосьці маглі сябе ўбачыць гэткімі,—не марнавалі-б так часу як даўней.

— Каб нам нашая моладасьць ды зноў... А,—Пётра Юстынавіч?

Увайшоў Максім Лужанін.

— Браток Максім, паміраю...—паступова павышаючы голас і пераходзячы на густы бас закрычаў Пётра Юстынавіч.—Да душы паміраю... Гроб мне...—Лужанін успомніў як, яшчэ гадоў сорак таму назад, ледзь занядужаўшы, Пятрусь Броўка крычаў—гроб мне! Успомніўшы, паправіў акуляры, адкашляўся і нічога адказаў нічога.

— Таварышы. У вашых словах я адчуваю ноткі пэсымізму,—сказаў нейкі стары, які да гэтага часу спакойна драмаў.

— Бэндэ ў нас малайцом,—паказваючы на дзядка сказаў дарослы мужчына (як потым высьветлілася сын Янкі Ліманоўскага)—ён нам чытае свае ўспаміны па гісторыі Белаппу... Цікавыя былі людзі. Цікавыя былі часы.

Стары, што йзноў быў задрамаў, адчыніў вочы, ажывіўся і сказаў:

— Цікавыя былі людзі. Цікавыя былі часы. Толькі каб гэтыя людзі больш тады над сабою працавалі,—больш-бы яны далі тэй вялікай эпосе, у якую ім давялося жыць... Я гэта на кожнай лекцыі кажу...—закончыў сваю праўдзівую прамову стары і зморана і доўга закашляў...

... Я сяджу, перачытваю зборнік „Гады як шторм“ і думаю аб тым, што вось яшчэ маладыя і мы можам яшчэ ўсьміхацца над уяўленьнем аб нашай старасьці.

Але я вельмі хацеў-бы, каб састарыўшыся, мы не казалі адзін аднаму нешта накшталт таго, што мы маглі-б зрабіць болей для Рэволюцыі, а зрабілі мала.

* * *

З твораў нашых беларускіх пролетарскіх пісьменьнікаў Пятрусь Броўка болей усяго любіць зборнік „Гады як шторм“. Гэтую сваю дзіўную любоў Броўка тлумачыць, нібы сваёю любоўю да ўсяго клясычнага.

З гэтай прычыны, бадай на кожным сваім выступленьні Пятрусь Броўка лічыць сваім абавязкам прачытаць шырокім колам сваіх слухачоў некалькі радкоў за свайго зборніку „Гады як шторм“.

І толькі бывае ўдзячныя слухачы ўбачаць брыгады поэтаў, і толькі бывае Броўка пачне:

Гады як шторм
пранесьліся па моры...

удзячныя слухачы, з трывогаю гледзячы на поэтаў, дадаюць на памяць:

... Сёньня там былі,
а заўтра ужо тут...

Ну, але гэта толькі падкрэсьлівае той факт, што поэта ведаюць.

На сёнешні дзень па сваёй тэматыцы Пятрусь Броўка выключна актуальны поэт Рэволюцыі.

Вось чаму і праз гадоў сорак я з прыемнасьцю выслухаю ўспаміны Бэндэ, у якіх ён скажа, што сэрца Пятруся Броўкі праз усё яго жыцьцё білася выключна ў тахт Рэволюцыі.

І калі Бэндэ да гэтага дадасьць, што ў Пятруся Броўкі ня было або зусім мала было творчых прагулаў,—стары Алёша будзе ўсьцешаны ў сваёй старасьці.

# ВЕЧАР

## ПЯТРУСЬ БРОЎКА

(штрыхі)

Пакуль пакаваў я
рыфмы да рэчы
каб добрага зьместу
і добрай шліфоўкі...
Аднекуль па ціху
падкраўся вечар,
ці то ад Пярэспы,
ці то
з Камароўкі.
І думы зьніачыў...
І крыкнуў:
Чакай!..
Ты вершы дапішаш
ў пакоі
і потым...
... І сінімі брызгамі
сыпнуў трамвай,
што вёў да вагзалу
людзей і клапоты.
Прайшлі маладыя...
Любы да любога!
Манэўраным строем
і песьню пачалі...
І вуліцы вышлі
ў кашулях каўбояў
паслухаць
як моцна
жыцьцё засьпявала.
Як рэха,
што пыл
узьнімае граніты
і кружыць кварталамі
бесьперабойна:—
— Таварыш!
краіну сваю
барані ты,
Таварыш!
рыхтуюцца
новыя войны!
Я бразгнуў па доле
рыфмованым глянцам,
Я ў іх адшукаў
свой аблік
аўтагенны—
Сягоньня мае дружбакі—
навабранцы
і сам я валодаю
стрэльбай ня дрэнна!
А трэба —
мы сядзем
ў тачанкі,
на коні,
Мы знаем.
чакае нас
першая рота!
І можа таму
гэтак прагка
сягоньня
Мы вучым—
гранаты,
Каб біць—
па гранатах.
Газэтчык
пра Польшчу крычыць,
пра Кітай,
што нашага брата
кідаюць пад кручу...
Паслухай, газэтчык!
я сам прачытаў
і мне ўжо самому
да сьмерці балюча.
А вечар грыміць...
а вечар ня змоўк...
І мчыць мне
па розных клявішах—
і стогны і енкі
маіх дружбакоў,



ПІСЬМЕНЬНІКІ СТАШЭЎСКІ І БАРАНАВЫХ ПЕРАДАЮЦЬ БЮСТ ЛЕНІНА КАЛГАСЬНІКАМ КАЛГАСУ „БАЛЬШАВІК".

Заходніх братоў
і таварышоў:
„І праўды той—
нідзе!
Жандар, дык ён
і гож!
І дзень у нас
ня дзень,
і дождж у нас
ня дождж.
І праўды той—
няма,
пад звоны
ланцугоў
і дзень у нас—
турма
і дождж нібыццам—
кроў..."
Мне-ж крыўдна,
што цяжка
рукою пасобіць
хапіць за гарляк
азьвярэлага ката,
каб к нуць
і тлустасьць яго
і вантробы
у тыя, што ён зладаваў,
казэматы.
А вечар агні электрычныя
стругаў
і кідаў што зор
залатыя прыгоршчы...
... Прамчаўся рамізьнік
з даўжознаю пугай
і зьнік у завулку
і змоўк яго
пошчак...
А з рогу,
аднекуль з каменных
узгоркаў:—
Слухайце!..
Слухайце!..
Слухай...
апошнія весткі
калгаснай прыборкі
радыё гойкнула
ў самае вуха.
— Хараша з сенам!
А з лёнам—
вузка!
Пляну няма.
Падыход стыхійны!
... Гэта зусім ўжо
інакшая музыка,
чымся „Танго",
што ад праскіх
работніц.
Так.
Посьпех прыборкі
мацней за віно,
Мацней за „Танго",
што буяніць і п.ніць...
... Вечар згасаў.
Надыходзіла ноч
прыходам да фабрык
трэцяе зьмены.

Г. Менск.



КАЦОВ Ч—(рабочы валасяншчык). Выконвае абавязкі майстра цэху. За кароткі час вынайшоў спосаб найлепшага скарыстаньня адходаў конволасу-хвастушкі, што дасьць магчымасьць у яго замест адходаў атрымаць да 600 кілё добрага матэрыялу.



**Віцебск. Піонэры вітаюць пачатак навучальнага году**

СПЭКТАКЛЬ, ЯКІ МОБІЛІЗУЕ НА АБАРОНУ

# „ТРЫВОГА“ Ў БЕЛТРАМЕ

НАРЫС А. ЭЛЬ

193... год. Трывога...

Капіталістычныя войскі на Савецкай межы. Пачынаецца бой—бязумоўна апошні, у якім бязумоўна перамагае сусьветны пролетарыят.

Амаль няма такіх, хто ня ведае, што гэты бой павінен з-дня на дзень прысьці. Але шмат ёсьць такіх, што ня рыхтуюцца з усёй адказнасьцю да гэтага, якія кожны дзень гэтым сваім об'ектыўна здраджываюць нашым франтом, правальваючы вайсковую падрыхтоўку, вывучэньне вайсковай тэхнікі. Асабліва значэньне гэта набывае для моладзі, для комсамолу. А між тым палавіна камсамолу не аўладае вайсковай справай. Факт трывожны і нябясьпечны. Не дарма IX зьезд УсеЛКСМ пастанавіў, што ня можа быць комсамольца, які не вывучае вайсковую справу. Але гэтае рашэньне на гэты дзень яшчэ ня ўсюды праводзіцца.

На дапамогу вырашэньня гэтай задачы прыходзіць мастацкі агітпроп комсамолу — БелТРАМ (Менск), які сваёй новай пастаноўкай „Трывога“ (п'еса Ф. Кнорэ) ставіць сабе задачу карэнным чынам зьмяніць адносіны комсамольцаў да вайсковай справы.

„Трывога“ паказвае звычайны комсамольскі колектыў, дзе „звычайна“ правальваецца вайсковая падрыхтоўка і інтэрнацыянальная праца. Праз паступовы рад зварэньняў прыходзіць лёгічны вынік—вайна. Разам з Чырвонай арміяй ідуць на фронт рабочыя, колгасьнікі, комсамол і наш колектыў у прыватнасьці. У зусім рэальнай абстаноўцы будучай вайны, на конкрэтных людзях, у якіх глядач спазнае ці сябе ці свайго таварыша, ён—комсамолец глядач, ясна пабачыць і ўсьвядоміць, што значыць заўтра сёнешнія вайсковыя заняткі. Ён пабачыць „герояў“, якія правальваюць вайсковую справу ў комсамоле. Вось Пятухоў — „пятух“, які па дурасьці зрывае вайсковую падрыхтоўку і набраўшыся высокіх слоў „кукарэча“ аб сусьветнай рэвалюцыі: ён у часе бойкі бяз глузду гіне, бо ня можа абараняцца. Гэта об'ектыўны дэзэртыр. Вось Лыжко—прымазаўшыйся чужак з „сярэдняй адукацыяй“. Ён разьвівае тэорыю што „Нам у выпадку вайны дапамогі ні ад каго як ня было, так і ня будзе. Лепш мы самі на сябе спадзявацца будзем.—Нябось, як мы рэволюцыю рабілі...“ Ён сёньня правальвае інтэрнацыянальную працу, а заўтра ў часе бойкі проста дэзэртыруе, хаваецца. „У лагодную шчылінку — да соцыялізму“. У супроцьлегласьць ім—увесь комсамольскі колектыў баявы і энэргічны дапаможнік Чырвонай арміі.

„Трывога“ паказвае будучую вайну ва ўсёй яе клясавай дыфэрэнцыяцыі. Фронт ляжыць не па географіі, а па клясах. Сёнешнія „Чарговыя“ абывателі з „Савецкімі анэкдоцікамі“, сэктанты—„аўцы божыя“, „Акадэмічныя“ нац-дэмы, нявыяўленыя кулакі,—заўтра клясавыя нашы ворагі. А з таго боку мяжы нясецца пераможны пролетарскі „Рот Фронт“. Так трывога вызначае, хто куды і што куды.

„Трывога“ ня толькі правільна паказвае будучую вайну ў яе расстаноўцы клясавых сіл—яна мобілізуе комсамол і ўсіх працоўных на штодзенную сур'ёзную вайсковую вучобу, яна паказвае, як прыдзе наша перамога над гнілым капіталізмам, з кім трэба змагацца зараз і ў часе трывогі. Таму „Трывога“ вельмі каштоўны спэктакль для ўсёй комсамоліі, для ўсёй пролетарскай грамадзкасьці.

Цікавы факт—разам з „Трывогай“ у Маскоўскім ТРАМ'е ішоў у тэатры Мэерхольда „Последний решительный“—на тую-ж тэму. Атрымалася бязумоўнае спаборніцтва. І што-ж? Перамога засталася на баку „Трывогі“. Чаму? Таму што „Трывога“ дае ленінскую концэпцыю аб вайне, таму што ТРАМ—жывая частка пролетарыяту не адхіляецца ад пролетарскай ідэолёгіі ў бок дробна-буржуазнага гісторызму ці пацыфізму.

„Трывога“ ў БелТРАМ'е ня тая-ж, што ў Маскоўскім. Перад тым, як прыступіць да пастаноўкі, БелТРАМ разаслаў брыгады па прадпрыемствах Менску, якія правярылі становішча ваенізацыі. Сам колектыў праводзіў вялікую вайсковую вучобу. Конкрэтны мясцовы матэрыял, унесены ў п'есу, дае ёй яшчэ большую завостранасьць і актуальнасьць. Са сцэны будзе гаварыць ня толькі Пятухоў наогул, але і Пятухоў заводу „Варашылава“, „Комунара“, „Дрэваапрацоўшчыка“ і г.д.

Цесна ўвязваючы вайсковую падрыхтоўку з інтэрнацыянальнай сувязьзю, „Трывога“ паказвае на дрэнныя бакі сувязі Менскай комсомоліі з Лейпцыгскай і даводзіць, якую вялікую

ролю сыграе міжнародная пролетарская солідарнасьць у будучай вайне. У „Трывозе“ яшчэ шмат момантаў: важнасьць вывучэньня замежных моў, комунізацыя замежных армій, праца германскіх агітпроп брыгад і г. д.—усіх не пералічыш."

Ставячы сабе задачу асьвятліць тэму цалкам і поўнасьцю, ТРАМ да спэктаклю і вакол яго разгортвае вялікую працу. Пачынаючы з афіш, білетаў, цераз уваход у тэатр, размаляваны лёзунгамі і транспарантамі, цераз фойе ўстаўленай вайсковай выстаўкай з прысутнасьцю вайсковага консультанцтва і да адчыненай заслоны з надпісам „Будзь гатоў да абароны“,—усё гэта будзе яшчэ да спэктаклю размаўляць з гледачом на тэму спэктаклю, дапаўняць яго.

БелТРАМ робіць сваю пастаноўку ў непасрэднай сувязі з рабочай моладзьдзю, комсамолам. 5/VI І ТРАМ склікаў шырокую нараду па абгаварэньні таго, што ўжо зроблена. На гэтым шматлюдным сходзе вельмі шмат цікавых і каштоўных заўваг, папраўак і дадаткаў атрымаў ТРАМ. Ён іх тэрмінова ўносіць у пастаноўку. Нарада прызнала, што „Трывога“ бязумоўна вельмі каштоўны актуальны спэктакль. Ён неабходзен зараз рабочай моладзі. Выпуск спэктаклю якраз супадае са сканчэньнем месячніка па праверцы ваенізацыі комсамолу. Ён якраз падвядзе вынікі. Трэба ўсёй комсамоліі змагацца за гэтую пастаноўку.

Нарэшце трэба сказаць, што такія нарады трэба яшчэ ня раз рабіць да выпуску спэктаклю і па магчымасьці ў рабочых клюбах.

---

ТВОРЧАСЬЦЬ НАРОДАЎ СССР

## МАРШ МАШЫНЫ

ВЕРШ УМ. ІСМАІНАЎ *)



Умарджай Ісмаінаў

Ш'е машына,
Ш'е машына,
Шытво прашывае,
Узор вышывае
І голас голасна
Просіць шытво.

Зорнаю ноччу
І ў сонечны дзень,
Машына зьбірае
Работніц к сабе.
Сакрэт расчыняе
Работніцам усім,
Сьпяваючы песьні
І гімны машын.

— Шыйце, шыйце,
Шыйце, рукі,
Строчкі строчце
На сарочцы!
Строчкі строчце,
Шыйце сарочку
Героям чырвоным
Хутчэй!
Песьні складайце,
Маршы сьпявайце,
Пра белую строчку
Армейскай сарочкі
Гучней!

— Гэй,
Сьмелая дзяўчына!
У тваіх руках
Швэймашына
Скача ў тахт,
Весела танцуюць
Шынель і кашуля,
Пад гэтую музыку
Танцуюць гузікі!

— Гэй, дзяўчаты,
Прывітаньне
Вышывайце...
На шынэлях
Серп і молат
Нашывайце!
Каб армейцы
Маглі дружна
З белым біцца,
А рабочыя заводаў
З вамі разам
Бараніцца.

— Шыйце, шыйце,
Шыйце, шыйце,
Нашывайце...
Пяць ў чатыры,
Пяць ў чатыры
Вышывайце!

— Гэй, дзяўчаты,
Дружна шыйце,
Каб каханьне
Прышывалася
Да нас,
Ды каб сэрцу
Зьмей варожаму
Было цесна
Сярод нас!

У змаганьні,
У працы,
Жыцьцё, абарона
Савецкай краіны.
Пра гэтую крыўду
Ведаць заўжды
Мільёны
Павінны!

— Шыйце, шыйце,
Шыйце, рукі,
Бязутомна!
Усіх баеў
Мы патопім
У новых домнах!

Будзе бой, —
І мы, дзяўчыны,
Пойдзем з маршам
Швэймашыны,
З намі —
Любы кулямёт
Строчыць будзе
Па палех!...

А сягоньня —
Шыйце, рукі,
Нашывайце!
Пяцігодку
За чатыры
Вышывайце!

Аўторызаваны пераклад
з узбэцкай Іл. Б.

*) Умарджай Ісмаінаў—адзін з выдатных узбэцкіх поэтаў. Член УзАПП.

---

САБАСЬЦЯН СТАРОБІНСКІ

## ЯСНАЕ ТАКОЕ...

(ПАРОДЫЯ НА АЛЕСЯ ЗВОНАКА)

Ясныя такія,
Ясныя такія,
Ясныя такія—
Мары.
Тупае па бруку,
Тупае па бруку,
Шкет учарашніх вуліц
І поэт бяздомны
Ў акулярах.

Адшумелі буры,
Адшумелі сосны,
Адсьпявалі песьні
Ў спальні.
А таму я зьдзіўлен,
Нават рот разьзявіў,
Нават ногі скурчыў
Сам я стаў —
Пытальнік.

Не, цяпер даволі,
Не, цяпер ўжо досыць,
Не, цяпер ўжо будзе—
Уперад!
Валаку я сэрца,
Валаку я радасьць,
Шырэй адчыняйце
Дзьверы!

Ясныя такія,
Ясныя такія,
Ясныя такія,
Песьні буду —
Жарыць.
Сорак капеек,
Сорак капеек,
Сорак капеек,
Ганорару!



# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АНСАМБЛЬ НАРОДНЫХ ІНСТРУМАНТАЎ

Беларускі Дзяржаўны ансамбль народных інструмантаў—адна з шматлікіх перамог пролетарыяту Савецкай Беларусі ў справе стварэньня культуры нацыянальнай па форме і социялістычнай па зьмесьце.

Ансамбль зарадзіўся ў 1926 г., але стала пачаў працаваць толькі ў апошні час і абвешчан Дзяржаўным I-XII—30 г. У склад яго ўвайшлі лепшыя выканаўцы на беларускіх народных інструмантах, у большасьці студэнты музтэхнікуму і рабочыя ад варштату: **Сушкевіч, Фрыдман, Навіцкі, Жыдовіч,** Захар, **Герман, Спэктар** і інш.—усяго 13 чалавек. У гэтым ліку ёсьць і вядомая працоўным Сав. Беларусі артыстка **Александроўская.**

Выкананьне народных сьпеваў і танцаў, складанае клясычнае музыкі, рэволюцыйных сьпеваў на народных інструмантах і пад акомпанімэнт цымбал Бел. Дзярж. Ансамбль дэмомстраваў свае дасягненьні, а разам з гэтым і дасягненьні культурнага будаўніцтва БССР перад працоўнымі Масквы, Ленінграду і часткова перад працоўнымі Сав. Беларусі.

Летам гэтага году ансамбль наведваў брацкую рэспубліку Сав. Украіны. Пролетары г. Харкова, героі тэмпаў Харкаўскага Трактарабуду, вітаючы і цёпла прыняўшы прадстаўнікоў з БССР, заверылі праз ансамбль працоўных БССР, што ХТЗ будзе пушчаны ў тэрмін—гэты вялізарны ўклад у завяршэньне пабудовы фундаманту социялістычнае экономікі.

Выступленьні ансамблю газ. „Харкаўскі пролетар" адзначыла, як „навочны доказ, што пролетарыят Беларусі будуе сваю культуру пролетарскую зьместам і нацыянальную формай. Работа ансамблю—вялікі крок уперад у аўладаньні масамі музычнай культурай".

Пасьля Харкава ансамбль выехаў у Данбас, наведаўшы шахты гор. Сталіна, Алчэўска, Сьвярдлоўскіх, Арцёмаўскіх руднікоў, працоўных гор. Луганску і інш.

Концэртамі, культвылазкамі ансамбль абслугоўваў гарнякоў лепшых шахт, выступаў на адстаючых.

Шахта імя Войкава—лепшая ўдарная шахта раёну—увесь час ідзе ўперадзе, перавыконваючы вытворчы плян. Ансамбль а 5-й гадзіне раніцы дае концэрт непасрэдна на шахце перад спускам рабочых у шахты з закуранымі, цёмнымі тварамі. Праслухаўшы Чарнушачку, Лявоніху і рэволюцыйныя бадзёрыя сьпевы, шахцёры спускаліся з паднятым настроем у шахты, напяваючы гэту Лявоніху і інш.

Шахта № 10 імя Арцёма—адстае, недавыконвае вытворчага пляну.

А 6-й гадз. раніцы ансамбль у поўным складзе ў казармах рабочых. Разам з шахткомам праводзіць работу словам, песьняй і музыкай па ліквідацыі прарыву гэтай шахты.

Данбас—усесаюзная качагарка. З-за недахопу рабочае сілы недавыконваецца вытворчы плян. Сав. Беларусь—адна з крыніц пастаўкі рабочай сілы Данбасу. Пасылка рабсілы з Беларусі жадае шмат лепшага, большай паваротлівасьці грамадзкіх організацый, колгасаў, у чым пераканаўся ансамбль, будучы ў Данбасе.

Наведваньне ансамблем Данбасу—ёсьць культурная сувязь Сав. Беларусі з гарнякамі. Надзвычайна горача прыняўшы ансамбль, гарнякі-шахцёры ў памяць аб гэтым прыпаднесьлі ансамблю лямпу шахцёра, у выдачы якіх яны прытрымліваюцца вялікай скромнасьці: атрымалі квартэт Вільома, Маскоўскі тэатр Рэволюцыі, Беларускі ансамбль і ня шмат іншых.

За 40 дзён ансамбль даў 45 концэртаў, з іх 11 бясплатных для рабочых і Чырвонай арміі ў парадку культвылазак.

Агульным сходам ансамбль з прадстаўнікамі партыйных, профэсыянальных і дзяржаўных організацый адзначаны як лепшыя ўдарнікі ансамблю і пролетарскага мастацкага фронту Сав. Беларусі прэміраваныя управай відовішчных прадпрыемства БССР: Александроўская, Жыдовіч, Герман, Спэктар і Плашчынскі.

Ансамбль заклікае ўсе мастацкія ўстановы Беларусі працаваць па-ўдарнаму.

Жыдовіч.

# ЗА ВЫЗВАЛЕНЬНЕ АД ЗАМЕЖНАЙ ЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў ТЭХНІЦЫ.



Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ШАХМАТЫ № 6

Пад рэдакцыяй А. А. КАСЬПЕРСКАГА і Я. Е. КАМЯНЕЦКАГА.

## Міжнародны конкурс складаньня шахматных задач „Чырвонай Беларусі“

Задача № 11. Дэвіз „Магнэс“



Белыя: Kpf2, Pc8, Лf6 і g8, Ch7, Kb4 і f7, пп: e3, e5 ...(9)

Чорныя: Kpe4, Pf5, Лh5, Ca8 і c7, Kb8 і g6, пп f3, h3 ...(9).

Мат у 2 ходы

Задача № 12. Дэвіз „Кляпан“



Белыя: Kpg8, Pd5, Лd7 і e2, Ce8, Kb5 і Kd1, пп: c7, d3, g3, h5 ...10).

Чорныя: Kpf5, Pa1, Лa6 і h6, Cb3 і c1, Kc4, і h7, пп: a3, a5, e5, f6, g4, g5, q4 ..(15).

Мат у 2 ходы

Партыя іграная ў чампіянаце Менску 2·VIII—31 г.

Бел. А. Касьперскі, чорныя Верасаў.

1 Kg1—f3, Kg8—f6, 2 d2—d4, d7—d5, 3 c2—c4, c7—c6, 4 e2—e3, e7—e6, 5 Kb1—c3, Kb8—d7, 6 Cf1—d3, d5:c4, 7 Cd3:c4, b7—b5, 8 Cc4—d3, a7—a6, 9 e3—e4, c6—c5, 10 e4—e5, c5:d4, 11 Kc3—e4, Kf6—d5, 12 o—o, Фd8—b6, 13 Cc1—g5, h7—h6, 14 Cg5—h4, Kd7—c5, 15 Лa1—c1, Kc5:d3, 16 Фd1:d3, Cc8—b7, 17 Фd3:d4, Фb6:d4, 18 Kf3:d4, Kd5:f4, 19 Ke4:d6+, Cf8:d6, 20 c5:d6, Cb7:g2, 21 Лc1—c7, g7—g5, 22 Лf1—c1, g5:h4, 23 Лc7—e7+ Kpe8—f8, 24 Лc1+c7, Лh8—h7, 25 f2—f3, Лh7—g7, 26 Kpg1—f2, Kf4—d5, 27 Лc7—a7, Лa8:a7, 28 Лe7:a7, Kd5—b6, 29 Лa7:a6, Kpf8—e8, 30 Лa6:b6, Cg2—h3, 31 Лb6—b7, e6—e5, 32 Лb7—e7+, Kpe8 d8, 33 Kd4—c6+, Kpd8—c8, 34 Лe7—c7+.

## РАЗЬВЯЗКІ ЗАДАЧ

„Чырвоная Беларусь“ № 10, май.

**№ 3. Я. Е. Камянецкага. Бел.:** Kpf1, Ca4 і c3, Kb7, пп: a6, b2, e2, e5, g3,..(9). **Чорн.:** Kpc4, пп: a7, c6, e3, e6, f2...(6) **Мат у 3 ходы:**

У першапачатковым становішчы на ходы чорных: 1... c6—c5 і 1... Kpc4—d5, у белых маюцца гатовыя адказы. На 1.. c6—c5 сьледуе 2. Kb7—a5+ і 3. Ca4—c6×. На 1... Kpc4—d5 сьледуе 2. Ca4—b3+ і 3. Kb7—d6×.

Але які-ж ход зрабіць белым, каб даць мат у тры хады?

Калі зіграць 1. g3—g4?, то пасьля 1... Kpc4—d5, 2. Ca4—b3+, Kpd5—e4 і мат на трэцім ходзе немагчым, з-за таго што пасьля 3. Kb7—d6 чорны кароль выходзіць на свабоднае поле f4.

Здаецца, што калі гэта так, то задача не разьвязваецца, бо захаваць старыя варыянты нельга. Але выхад кроіцца ў тым, каб зьмяніць існуючыя варыянты.

Разьвязвае задачу 1. Ca4—c2!

Калі 1... c6—c5, то 2. Kb7—d6+ і 3. Cc2—c4×.

Калі 1... Kpc4—b5, то 2. Cc2—d3+ і на Kpa4 3. Kb7—c5×, а на Kpb6 3. Cc3—a5×.

Калі 1... Kpc4—d5, то 2. Cc2—b3+ і 3. Kb7—d6×. Цікавая задача!

**№ 4. В. І. Шыфа. Бел.** Kpb1, Pe5, Лh1, Ce1, Ke3 і h6, пп: d6, g2, h3, h4..(10). **Чорн.** Kpg3, Лf2, Cg6, Kf4, пп: b2, d7, f5 h5, h7...(9). **Мат у 2 хады.** І тут усё гатова! Прыходзіцца замяніць існуючыя маты. Рашае задачу. 1. Pe5:f5!

Да першага ходу на 1... Cg6—∾ 2. Kh6:f5×, пасьля 2. Pf5—g6×, да першага ходу на 1... Kpg3:h4 2. Фe5:f4×, пасьля 2. Ce1:f2×. Першым ходам дабаўляецца новы варыянт 1... Kf4—d3, 2. Pf5—g5×. У гэтым варыянце праходзіць **тэма Шора.** Сутнасьць яе ў наступным: першым ходам белыя разьвязваюць зьвязаную чорную фігуру і зьвязваюць сваю. Чорныя абараняючыся, разьвязваюць зьвязаную фігуру белых, пасьля чаго тая і дае мат. Варыянт 1... Kf4—d3! Ярка адлюстроўвае гэту тэму.

## БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

### СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫ СЭКТАР



ТАВАРЫШЫ КОЛГАСЬНІКІ,

**ЧЫТАЙЦЕ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:**

| | | |
|---|---|---|
| Як організаваць працу ў ільнаводных колгасах | цана 15 | кап. |
| Рабочая програма па ўборцы лёну і канапель. | „ 5 | „ |
| Лён і канапля. (Зборнік) | „ 20 | „ |
| Меерсон.—Як правільна ўбіраць лён. | „ 10 | „ |
| Шатэрнік.—Культура лёну | „ 50 | „ |
| Сэлекцыя і культура лёну | „ 40 | „ |
| За пашырэньне плошчы і ўздым ураджайнасьці лёну і канапель. (Зборнік) | „ 10 | „ |
| За правільны колгасны ўлік. (Зборнік) | „ 12 | „ |
| Улік у колгасах. (Зборнік). | „ 20 | „ |
| Удалаў.—Вытворчыя нарады ў колгасах | „ 15 | „ |
| Парадак разьмеркаваньня даходаў | „ 2 | „ |
| Галенчанка.—Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю | „ 20 | „ |
| Комсамол за аўладаньне агро-тэхнікай. (Зборнік) | „ 32 | „ |
| Барацьба са шкоднікамі і хваробамі с.-г. расьлін | „ 95 | „ |
| Як жывецца ў комуне. (Зборнік). | „ 17 | „ |
| Герасімаў. — Аўладай тэхнікай колгаснай вытворчасьці. | „ 7 | „ |
| Галевіус.—За бальшавіцкую ўборку ўраджаю | „ 10 | „ |
| Нісьневіч. — Організавана правядзем 2-ю бальшавіцкую ўборачную кампанію | „ 10 | „ |
| Плятнер.—Зьдзельшчына ў колгасах | „ 17 | „ |
| Байкоў.—Кіраўніцтва ў колгасах | „ 20 | „ |
| Варкуноў. — Аб парадку скармліваньня сілосу | „ 2 | „ |
| Іскроў і др.—Выканаем плян па сілосу | „ 10 | „ |
| Кароткая інструкцыя па тэхніцы і сіласаваньні | „ 5 | „ |
| Розэнблюм. — Організацыя сіласаваньня ў колгасах | „ 15 | „ |
| Комсамол за сілос | „ 20 | „ |
| У паход за сілос | „ 15 | „ |
| Кукуруза на сілос | „ 10 | „ |
| Як захоўваць насеньне гародніны. (Зборнік). | „ 10 | „ |
| Аб адходніцтве з колгасаў. (Зборнік) | „ 10 | „ |

**ЧЫТАЙЦЕ НАСТУПНЫЯ КНІЖКІ:**

ДУМКІ АБ ПРАЧЫТАНЫХ КНІГАХ І ВАШЫХ ПАЖАДАНЬНЯХ ШЛІЦЕ Ў БДВ—С.-Г. СЭКТАР, БЯЗ МАРАК

**Менск, Савецкая, 59.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1990. Галоўлітбел № 1031.